Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 34(70) 23 - 29 жніўня 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў прызначыла дату выбараў у Вярхоўны Савет краіны– яны адбудуцца 24 лістапада. На іх правядзенне неабходна прыкладна каля 2 мільёнаў долараў. І якраз у такую ж суму абыдзецца і правядзенне рэферэндуму 7 лістапада. Чаму б дзве падзеі не сумясціць? На гэтае пытанне адказаў Лукашэнка ў час сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці Гродзенскай вобласці: "Я адназначна заяўляю: новых выбараў не будзе". Значыць, атрымаўшы на рэферэндуме права на змяненне Канстытуцыі, прэзідэнт РБ адменіць рашэнне Цэнтрвыбаркома і здзейсніць рэарганізацыю існуючага парламента. У гэтым жа выступленні былі адзначаны поспехі палітыкі, якая праводзілася кіраўніком дзяржавы, і вызначаны прычыны крызіснага стану грамадства. Асноўнае– гэта непрадуманая палітыка, што праводзіцца былым кіраўніцтвам рэспублікі пасля набыцця суверэнітэту, што прывяло да разбурэння без усялякага прадстаўлення аб тым, што мы будзем будаваць. Прэзідэнт РБ растлумачыў таксама прычыны ўнясення 4 пытанняў на рэферэндум:

1. Перанесці Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня– Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне. "За" ці "Супраць". Выносіцца ў сувязі з тым, што каля даты правядзення гэтага свята няма згоды ў грамадстве.

2. Прыняць Канстытуцыю РБ 1994 года са зменамі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі прэзідэнтам РБ А. Лукашэнкам. "За" ці "Супраць".

Размова ідзе аб некаторых змяненнях і дапаўненнях, якія рэальна зябяспечаць падзяленне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады і тым самым ліквідуюць крыніцу канфрантацыі паміж імі.

3. Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі? "За" ці "Супраць".

Пытанне выклікана неабходнасцю таго, што свабодны гандаль зямлёй стварае небяспеку, што яна акажацца ў руках замежных грамадзян, а гэта ўжо пытанне дзяржаўнага суверэнітэту.

4. Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь? "За" ці "Супраць".

Гэтае пытанне неабходна вырашыць станоўча для перспектывы ўступлення нашай рэспублікі ў Савет Еўропы. Узровень развіцця свядомасці, а значыць і гатоўнасці нашай дзяржавы выканаць міжнародныя пагадненні і пакажуць адказы.

У той жа час нельга выпускаць з-пад увагі і альтэрнатыўныя праекты, якія пастаянна ўзнікаюць у нашым грамадстве. Так, дэпутат Вярхоўнага Савета і палітолаг Вольга Абрамава лічыць, што выносіць пытанні канстытуцыйнага ўладкавання на рэферэндум можна толькі тады, калі ўсе грамадзяне валодаюць веданнем асноў палітычнага жыцця і таму следам за Старшынёй Вярхоўнага Савета Шарэцкім яна прапануе вярнуцца да ідэі парламенцкай рэспублікі, тым больш, што ёсць адпаведны праект Канстытуцыі, які створаны тымі ж аўтарамі, што і існуючы зараз.

Але ўжо сёння, не чакаючы 7 лістапада, можна зрабіць выбар на падставе толькі таго, як пытаюцца пазбавіць грамадзян права выбіраць сваіх прадстаўнікоў у заканадаўчы орган нашай дзяржавы, адмяняючы давыбары. Такія вось адносіны да канстытуцыйных правоў у нашым грамадстве, і не дапаможа ніякая найсучаснейшая Канстытуцыя, пакуль гаворым адно, а робім іншае.

***Аляксандр УЛАДЗІН***

## 40 дзён, якія скаланулі Валожын

***На тэрыторыі геастанцыі "Заходняя Бярэзіна", што ля вёскі Калдыкі, адбылася бойка паміж студэнтамі-практыкантамі геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта і жыхарамі Мінска. Аднаго студэнта зарэзалі, трох паранілі.***

Адразу пасля крывавай купальскай ночы пракуратурай Валожынскага раёна ўзбуджана крымінальная справа (забойства пры абцяжваючых абставінах). Забойцу затрымалі.

Праз тры дні збіраецца райвыканком і прымае рашэнне аб надзвычайным здарэнні на вучэбна-геаграфічнай станцыі. Рашэнне канкрэтнае і чытаецца, як загад: арганізаваць, рашыць, забараніць, забяспечыць...

Адначасова службай кантролю прэзідэнта высвятляюцца абставіны сумнай падзеі і выяўляюцца шматлікія недахопы ў арганізацыі Белдзяржуніверсітэтам практыкі студэнтаў: у пакоях адсутнічае неабходная мэбля, памяшканні доўгі час не рамантаваліся, неэфектыўна працуюць электраплiты...

У друку былі апублікаваны звесткі аб рашэнні прэзідэнта зняць з работы 10 чалавек: галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Мінскай вобласці, в. а. прарэктара БДУ, намесніка дэкана геафака, старшага выкладчыка, дырэктара геастанцыі, начальнікаў валожынскіх раённых службаў і старшыню райвыканкома Валянціна Малішэўскага.

Некаторыя ўбачылі ў гэтым помсту. У час кампаніі па выбарах прэзідэнта Валожыншчына падтрымала свайго земляка Кебіча. Ды і пры чым тут выканком, калі геастанцыя– маёмасць універсітэта і там свае парадкі.

У маёй размове з былым ужо дырэктарам "Заходняй Бярэзіны" Іванам Балдоўскім не адзін раз падкрэслівалася: каб універсітэт своечасова даваў грошы на ўтрыманне станцыі, парушэнняў не было б.

08/19/96 14:59 FAX 200610 PRESIDENT OF-RB

Президент
Республики Беларусь

№ 07/08

Руководителям предприятий
и организаций, колхозов и
совхозов Воложинского района

Абсолютно солидарен с вашим мнением в отношении председателя райисполкома В.И.Малишевского.

В связи с этим информирую вас о том, что публикация в "Советской Белоруссии" от 13 августа 1996 г. явилась поспешной.

Фактически опубликовано не решение Президента, а предложения Службы контроля Президенту.

Из-за оплошности Администрации Президента эти материалы попали на страницы президентской газеты преждевременно, за что приношу вам и Валентину Ивановичу свои извинения.

Заверяю вас: виновные будут наказаны.

Желаю вам плодотворной и результативной работы.

А.Лукашенко

17 августа 1996 г.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, гаспадарак не сталі простымі назіральнікамі ў палітычнай, магчыма, гульні. Сабралі подпісы ў падтрымку Малішэўскага і даслалі прэзідэнту. Адказ не прымусіў доўга чакаць (яго і змяшчаем).

У тэлефоннай размове старшыня райвыканкома на пытанне, які ў яго настрой пасля гэтых усіх падзей, адказаў:

–Настрой рабочы. Працуем.

Лёс іншых звольненых раённых начальнікаў пакуль невядомы.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Адным абзацам

☐ 21 верасня– Нараджэнне Багародзіцы. У гэта свята ў мінскім парку Дружбы народаў адкрыецца праваслаўная капліца ў гонар іконы Боскай маці, якая стане знакам усенароднай памяці ахвяраў чарнобыльскай трагедыі.

☐ У хуткім часе навасёлаў і жадаючых змяніць дызайн кватэры чакае расчараванне, бо, згодна з распараджэннем Дзяржаўнага мытнага камітэта, з 12 жніўня ўся мэбля, што перавозіцца фізічнымі асобамі праз мяжу Беларусі суправаджальным багажом, абкладаецца пошлінай у памеры 50%, што прывядзе да росту кошту мэблі.

☐ Калі верыць словам прэзідэнта, то ў хуткім часе мы нарэшце зможам наведацца ў мінскі Палац Рэспублікі– будаўніцтва гэтага даўгабуда плануецца завяршыць у 1997 годзе.

☐ Калі беларускія спіртзаводы пяройдуць на зерне па новых цэнах, то, як мяркуе міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Лявонаў, кошт гарэлкі непазбежна падымецца.

☐ Адбылося абмеркаванне праграмы развіцця краіны. У 1997 годзе чакаецца рост валавага ўнутранага прадукта на 5%, курс долара, мяркуецца, ў сярэднім за год будзе роўным 17800 руб., колькасць беспрацоўных на канец наступнага года– 6,3%. Практычна ўсе мерапрыемствы праграмы па вырашэнні праблем неадэкватныя прычынам і глыбіні эканамічнага крызісу, пераўтварэнні праграмы прадугледжваюць канцэнтрацыю камандных вышынь у руках дзяржавы. Устаноўка на "рынкавы сацыялізм" толькі прадоўжыць агонію сістэмы.

☐ 19 жніўня на Мінскім аўтамабільным заводзе прайшоў мітынг, у якім удзельнічалі некалькі тысяч чалавек. Прычына масавай акцыі– затрымка выплаты заработнай платы за ліпень. Адміністрацыя завода паабяцала пачаць выплату ў сераду, але толькі ўсяго 30% ад патрэбнай сумы. На пагашэнне ўсёй запазычанасці грошай няма.

☐ Адбылася першая рада Маладзечанскай філіі Беларускага Дэмакратычнага аб'яднання "Ветэран", на якой былі разгледжаны планы грамадска-палітычнай дзейнасці на бліжэйшы перыяд.

## Навіны

### Наступны нумар– тоўсты

30 жніўня "Рэгіянальная газета" выйдзе двайным аб'ёмам. Мы даўно планавалі зрабіць гэты крок, але магчымасці з'явіліся толькі сёння. Такія "тоўстыя" нумары мы маем намер выпускаць і далей. Пакуль– раз на месяц. Затым часцей. Рэдакцыя пастараецца, каб "патаўсценне" газеты не адбілася на кішэні чытача. Нумар, як дарэчы, і далейшыя, будзе каштаваць у розніцу ўсяго толькі паўтары тысячы рублёў.

**Звярніце ўвагу: падпісная цана застаецца ранейшай– 4 тысячы на месяц. Падпішыцеся, і вы выйграеце!**

**На IV квартал падпіска каштуе 12 тысяч рублёў.**

***Рэдакцыя.***

### Газета атрымае метрыку

***"Новая газета Смаргоні", аб стварэнні якой "РГ" у свой час паведамляла, зарэгістравана ў Дзяржкамітэце па друку пад нумарам 640. Рэдакцыя, якая пакуль налічвае ўсяго 2 чалавекі, атрымае пасведчанне.***

Рамуальд Улан, рэдактар і заснавальнік новага выдання, бачыць яго і як газету прыватных бясплатных аб'яў, і як крыніцу інфармацыі аб гарадскім жыцці: мы– альтэрнатыўная газета, якая асвятляе падзеі з пункту гледжання абывацеля.

Тыраж газеты пакуль 900 экземпляраў, 2 старонкі, фармат А3.

Дарэчы, "Новая газета Смаргоні" дапаможа смаргонцам размясціць сваю рэкламу на старонках "Рэгіянальнай газеты". Тэлефон для даведак у Смаргоні 52948.

### Ніколі не гавары ніколі

***МАЛАДЗЕЧНА. Звесткі аб увядзенні з 1 верасня ў школе мастацтваў платы за навучанне не пацвердзіліся.***

Адміністрацыя ўстановы вырашыла падобнае не рабіць. Гэта пры тым, што наўрад ці бацькі адмовіліся б ад невялікай аплаты за адукацыю з эстэтычным ухілам для свайго дзіцяці. Атрыманыя ж сродкі маглі пайсці на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы– закупку музычных інструментаў, сцэнічных касцюмаў, фарбаў, мальбертаў і да т. п.

Школа пастаянна расшыраецца, хаця там і існуе адбор вучняў у першыя класы. Наспела неабходнасць вызваліць яе ад абавязковага прыёму дзяцей з мікрараёна.

–Прымаем да сябе вучняў з усяго горада,– гаворыць дырэктар школы мастацтваў Людміла Васілевіч.– Таленавітаму дзіцяці мы не скажам "не".

***Аддзел інфармацыі.***

### Жніво: убіраюць збожжа і снарады

***МЯДЗЕЛ. У вёсцы Задубенне Крывіцкага пассавета знойдзены снарад. Сапёры з Мінска спрацавалі аператыўна.***

Але гэта хутчэй выключэнне. Калі раней выбуханебяспечныя прадметы ліквідавалі на працягу 24 гадзін, то цяпер салдатаў чакаюць, бывае, і па шэсць дзён.

Штогод у раёне знаходзяць да 20 "падарункаў". Да прыкладу, вёска Занарач багатая на артснарады, а вёска Равячы - на авіябомбы нямецкай вытворчасці.

Райвыканкомам праводзіцца растлумачальная работа з насельніцтвам. Бо тут добра памятаюць, як камбайнер кувалдай выбіваў з уборачнага механізма авіябомбу. Яму пашчасціла.

***Аддзел інфармацыі.***

### Кухары працуюць на палетках

***СМАРГОНЬ. Інжынеры-механікі, тэхнолагі, мантажнікі, кухары, што стаяць на ўліку ў цэнтры занятасці, падаліся на вёску.***

Гаспадаркі з ахвотаю іх запрашаюць, прапануючы часовую работу. Ад пачатку года і па сённяшні дзень 1150 спецыялістаў іншых прафесій працавалі і працуюць на зямлі: ад вывазу камянёў да ўборкі збожжа.

Найбольш прыйшліся даспадобы ўчарашнія гараджане і сённяшнія вяскоўцы калгаснікам "Кушлянаў", імя Калініна. Усяго ў цэнтры занятасці зарэгістравана 2475 беспрацоўных.

***Аддзел інфармацыі.***

### "Ніва" падвяла

***ВІЛЕЙКА. І да чаго толькі ні дадумаецца чалавек ад беднасці! У саўгасе "Карпавічы" аднавілі стары камбайн, які атрымалі ў 1982 годзе. Фактычна з двух непрацуючых камбайнаў зрабілі адзін.***

Сёмага жніўня камбайнер Віктар Старадуб убіраў ячмень на полі ля Шыпкоў. У час выгрузкі зерня заклініла падшыпнік і з-за трэння загарэліся адыходы збажыны ўнутры корпуса. Камбайнер і яго памочнік спрабавалі патушыць полымя. Але вогнетушыцель спрацаваў неэфектыўна. Прыбыўшы на выклік экіпаж пажарнай машыны ліквідаваў загаранне. Людзі не пацярпелі, але абгарэў рухавік і электраправодка камбайна.

***Алена АЛЬФЕР.***

### "Дон" згарэў

МАЛАДЗЕЧНА. У калгаса "Усход" згарэў ушчэнт "Дон 1150". Камбайн працаваў у полі, калі "каратнула" электраправодка. Людзі не пацярпелі.

